**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 15 (731) 10 красавіка 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





"Мелодыі вясны". Юныя таленты Глыбоччыны.
Працяг тэмы на стар. 4.
*Фота Ул. Скрабатуна.*

Віцебскі раён

# Прадказальны выбар

■ Станіслаў Раманчук

**У самай актыўнай на прайшоўшых выбарах вобласці не сталі адкладваць у доўгую скрыню вырашэнне наступных пытанняў.**

Ужо праз 5 дзён пасля завяршэння галасавання ў Віцебску адбылася арганізацыйная сесія аблсавета дэпутатаў 27-га склікання з удзелам упраўленцаў дзеючай вертыкалі ўлады. Як і ў іншых рэгіёнах, абышлося без нечаканасцей пры выбарах старшыні на новы тэрмін. Напярэдадні свайго 60-годдзя зноў пацвердзіў свае паўнамоцтвы Аляксандр Ацясаў, за якога пры тайным галасаванні выказаліся дэпутаты аблсавета аднадушна. Дарэчы, новы-стары кіраўнік абласнога "парламента" выбіраўся па Гарадоцкай акрузе № 9 на альтэрнатыўнай аснове. Сярод яшчэ двух канкурэнтаў ён быў па-за канкурэнцыяй, сабраў амаль 11 тысяч галасоў выбаршчыкаў у сваю падтрымку, бо часта бываў у Гарадку, курыруе там пытанні падрыхтоўкі да "Дажынак". Іншыя два кандыдаты разам набралі крыху больш двух тысяч галасоў і яшчэ 825 выбаршчыкаў прагаласавалі супраць усіх. Сёлета, дарэчы, яўка на выбарах у Прыдзвінні была амаль на 9 % меней, чым у красавіку 2010 года, калі абіраліся мясцовыя Саветы 26-га склікання. А вось разлічваць на тое, што на Віцебшчыне будуць якія-небудзь перамены, не варта, хоць аблсавет абнавіўся на трэць. Нават намеснік старшыні аблсавета дэпутатаў будзе працаваць на грамадскіх пачатках, як і 11 членаў прэзідыума і 5 старшынь пастаянных камісій. Гэты орган улады болей дэкаратыўны і не можа выконваць значную ролю ў вызначэнні прыметраў развіцця рэгіёнаў, паколькі ў Беларусі адсутнічае еўрапейская мадэль мясцовага самакіравання тэрыторый.

Аршанскі раён

# Зноў спазняемся

■ Чэслаў Якубовіч

**У якасці двух стратэгічных аб'ектаў гэтага года ў вобласці вызначылі два льнозаводы, размешчаныя ў Аршанскім і Пастаўскім раёнах.**

Там ужо ў пачатку красавіка павінны былі запусціць у эксплуатацыю сучасныя імпартныя тэхналагічныя лініі. Але калі ў Паставах у сярэдзіне вясны бельгійскія спецыялісты прыступілі да іх мантажу, то на другім Арэхаўскім льнозаводзе на Аршаншчыне гатоўнасць аб'екта складала толькі 28 %. Таму сюды вымушаны быў зноў ажыццявіць рабочую паездку прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч, які курыруе датацыйную льнаводчую галіну. У гэтай сферы гадамі спрабуюць змяніць сітуацыю, але справы марудна паляпшаюцца. На іншым прадпрыемстве-гіганце Аршанскім льназаводзе таксама крыўдуюць на якасць валакна, якое паступае з заводаў-партнёраў. Праўда, кіраўнік урада застаўся больш задаволены, як на галаўным прадпрыемстве праводзіцца мадэрнізацыя. Глава Саўміна пабываў у цэхах, на пляцоўках, дзе яшчэ трэба прэвесці тэхпераўзбраенне і правёў чарговую нараду па развіцці гэтай галіны. Прыйшлося паставіць іншую задачу, каб новае абсталяванне на мясцовым льнозаводзе запрацавала з 1 мая. А вось на самім льнокамбінаце старающца замацаваць свае пазіцыі на спажывецкім рынку. Прэм'еру расказалі і паказалі навінкі рушнікоў і сталовых набораў, парц'ераў, якія сталі выпускаць на сучаснай аўтаматызаванай нямецкай лініі. Гэта тэхніка дазваляе выраблядь нават льняныя пледы з прыемнай гамай колераў. На камбінаце значна пашырылі асартымент сваёй прадукцыі і для спажыўцоў з'явіліся нават льняныя хлебніцы, пярэднікі для кухараў, прыгожыя салфеткі і шмат чаго іншага. Гэта прадукцыя для дома, дачы і кухні цяпер прадстаўлена ў айчынных гіпермаркетах і буйных гандлёвых цэнтрах.

Пастаўскі раён

# Натхненне сілкуе таленты

■ Кастусь Александровіч

**У горадзе Паставы захавалася, шмат помнікаў старажытнай архітэктуры і нават шэраг фрагментаў плошчы XVIII стагоддзя ў цэнтры горада.**

Побач з ёй на ўзбярэжжы ракі Мядзелка чвэрць стагоддзя назад у адрэстаўраваным трохпавярховым старым млыне справіў наваселле Дом рамёстваў з аднайменнай назвай. У трохпавярховым будынку ёсць цяпер 4 выставачныя залы. У адной з іх днямі адкрылася першая з цыклу выстаў лепшых работ творцаў пастаўскага народнага клуба "Майстры". Яна была прымеркавана да 20-годдзя вядомага аматарскага аб'яднання, якое на грамадскіх пачатках яшчэ ў 1991 годзе пачалі ствараць мастакі, літаратары і іншыя ўлюбёныя ў гісторыю свайго краю людзі. Зараз членамі клуба з'яўляюцца больш паўсотні чалавек, з якіх сямёра сябры Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі. Цяпер у Доме рамёстваў працуюць гурткі па народнай вышыўцы, вязанні, кераміцы, габеленах, пляценні паясоў і іншыя, а першымі прадставілі свае лепшыя творы шэраг майстроў розных узростаў і прафесій. На адкрыццё выставы прыйшло шмат гараджан і дзяцей, якія цікавяцца мастацтвам. Усім спадабаліся арыгінальныя лялькі і цудоўныя карціны-вышыванкі Таццяны Сабецкай. Нягледзячы на пажылы ўзрост, па-ранейшаму зачароўвае тэхнікай вышыўкі крыжыкам Ганна Шылько. Адна з самых маладых сяброў клуба Крысціна Брэская пасля заканчэння педуніверсітэта імя М. Танка дасканала асвоіла народную вышыўку, выраб лялек і абрэзкаване шыццё. Не стала прафесійным мастаком пастаўчанка Ганна Мухля, але яе карціны маслам не толькі ўражваюць прыгажосцю, але і добра прадаюцца. Выставы майстроў клуба будуць праходзіць на працягу года.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 10.04.14 | | | | Пятніца 11.04.14 | | | | Субота 12.04.14 | | | | Нядзеля 13.04.14 | | | | Пн.14.04.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | 0 | +4 | +1 | -2 | +1 | +8 | +4 | +3 | +4 | +8 | +5 | +3 | +5 | +10 | +7 | +4 | +5 | +8 |
| Ціск | 745 | 748 | 751 | 753 | 754 | 755 | 754 | 752 | 751 | 750 | 750 | 750 | 749 | 749 | 747 | 745 | 743 | 742 | 741 |
| Вільготнасць | 74 | 83 | 49 | 51 | 59 | 72 | 40 | 52 | 65 | 90 | 60 | 70 | 77 | 90 | 54 | 68 | 80 | 98 | 63 |
| Вецер м/сек | 7 В | 8 В | 6 В | 5 В | 5 Ю-В | 6 Ю-В | 5 Ю | 4 Ю | 4 Ю | 4 Ю | 3 Ю | 3 Ю | 3 Ю | 4 Ю | 4 Ю-З | 3 Ю | 4 Ю-З | 4 Ю-З | 5 З |

# Аб самым надзённым

## Айчынная эканоміка ўсё болей прабуксоўвае, беларуская прадукцыя дрэнна раскупляецца

■ Аляксандр Цішкевіч

**У цэлым міжнародны фон для беларускай эканомікі не вельмі спрыяльны, не расце канкурэнтаздольнасць айчынных тавараў і адсюль большасць праблем. Праўда, ёсць некаторыя станоўчыя фактары. У прыватнасці, на сусветных рынках стаў расці попыт на калійныя ўгнаенні і таму "Беларуськалій" можа сёлета павялічыць аб'ёмы продажу калію і болей прынесці дзяржаве валюты.**

У гэтым годзе веснавая сяўба ў нашай краіне стартавала вельмі рана, нават у шэрагу раёнаў паўночнай Віцебскай вобласці неўзабаве пасля завяршэння мясцовых выбараў. Такое раней ніколі не назіралася, але ж і рэкордных за стагоддзе назіранняў тэмпературных рэкордаў не было. У мінулым пры ранняй і цёплай вясне ў Прыдзвінні выязджалі ў поле да 7-10 красавіка, калі снег рана знікаў і глеба падсыхала. Летась жа снежнае покрыва трымалася доўга і са спазненнем тады гаспадаркі пачыналі падкормку пасеваў, унясенне калійных і азотных угнаенняў.

Парадокс, але ж год назад сітуацыя ў айчыннай сельскай гаспадарцы была лепшая. Тады не было такіх праблем з затрымкамі заробкаў вяскоўцам, як цяпер. Увогуле дзіўныя рэчы адбываюцца ў развіцці АПК. Напрыклад, летась галіна ад продажу беларускага мяса і малака за мяжу атрымала 5,8 млрд. долараў валютнай выручкі. Аднак пры гэтым галіновы міністр Леанід Заяц прызнае, што беларуская сельская гаспадарка стратная, не атрымала прадукцыі амаль на 11 трлн. рублёў. У выніку павінна была з'явіцца чарговая Дырэктыва № 5 "Аб мерах па павышэнні канкурэнтаздольнасці сельскагаспадарчых арганізацый і прэстыжу работы ў аграпрамысловым комплексе".

Па-сутнасці, ідзе гаворка, каб выратаваць вёску ад банкруцтва, хоць там практычна поўнасцю абнавілі машынна-трактарны парк, пабудавалі і абнавілі больш тысячы ферм, а толку няма. Цяпер рашылі да канца 2016 года рэарганізаваць 347 дабітых да ручкі калгасаў. Адной з мер прызнана павышэнне зноў закупачных цэн, што наўрад ці парадуе большасць насельніцтва. Увогуле праблемы АПК цяпер не адзіныя ў эканоміцы Беларусі і невыпадкова беларускі лідар адкрыта загаварыў аб адстаўцы цяперашняга ўрада.

У віну камандзе М. Мясніковіча ставіцца тое, што сёлета ў пачатку каляндарнай вясны запасы гатовай непрададзенай прадукцыі дасягнулі 84 % да сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці ( аналагічны паказчык год назад быў 75,2 %). А колькі было размоў і прэзідэнцкіх патрабаванняў аб разгрузцы складоў. Нават дазволілі прадаваць прадукцыю па цэнах ніжэй сабекошту. Аднак на беларускія тавары нізкі попыт у свеце. У выніку, па дадзеных Белстата, у студзені – лютым айчынны ВУП знізіўся на 1,6 %. Беларуская прамысловасць услед за АПК скараціла вытворчасць сёлета яшчэ на 5,5 %, экспартныя пастаўкі знізіліся ў пачатку года на 7,7 %.

Услед за гэтым толькі цэны ў нас не стаялі на месцы, а эксперты Сусветнага банка і Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця адзінадушныя ў сваім прагнозе, што і 2014 год будзе вельмі складаным для нашай краіны. Беларусі сёлета трэба шмат плаціць па ранейшых сваіх знешніх пазыках і даўгах, з-за чаго ВУП знізіцца на 0,5 %. Гадавая інфляцыя ў такіх умовах можа быць вышэй леташніх 12 % і дасягнуць 16 і болей %. Дарэчы, спажывецкія цэны ў 2013 годзе павысіліся на 118,3 %. Пачатак красавіка быў адзначаны ростам кошту праезду на грамадскім траспарце, па чыгунцы.

Таксама адчувальна прыкладна на 150 тысяч рублёў павялічылася аплата бацькамі харчавання дзяцей у дашкольных установах, выраслі паслугі сувязі і тарыфы ЖКГ. На гэтым фоне для беларусаў рэальна зніжаліся пенсіі, а ў цэлым па ўзроўні жыцця мы апынуліся на ўзроўні паказчыкаў … 2009 года. Як ні горка, але фактычна некалькі гадоў запар Беларусь топчыцца на адным месцы і практычна неадчувальнымі стануць павышэнні заробкаў з 1 красавіка для работнікаў бюджэтнай сферы. Ды і наступнае такое павышэнне, якое народ атрымае ў чэрвені, наўрад ці можна палепшыць бюджэт канкрэтных сем'яў.

У цэлым міжнародны фон для беларускай эканомікі не вельмі спрыяльны, не расце канкурэнтаздольнасць айчынных тавараў і адсюль большасць праблем. Праўда, ёсць некаторыя станоўчыя фактары. У прыватнасці, на сусветных рынках стаў расці попыт на калійныя ўгнаенні і таму "Беларуськалій" можа сёлета павялічыць аб'ёмы продажу калію і болей прынесці дзяржаве валюты. З іншага боку, мяркуючы па развіцці падзей, Беларусі не ўдасца ліквідаваць экспартную пошліну на нафтапрадукты, ад якой не хоча адмаўляцца Расія нават пасля арганізацыі Еўразійскага эканамічнага саюза. З-за падзей вакол Крыму ў нашага асноўнага гандлёвага партнёра сёлета таксама будзе рост негатыўных эканамічных праблем. Руская, хутчэй усяго, меней купяць беларускіх тавараў, што ставіць перад пагрозай невыканання асноўных планаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі ў 2014 годзе. Ды і праводзіць наспеўшыя рынкавыя рэформы за год да прэзідэнцкіх выбараў проста рызыкоўна.

## Дзень за днём

**З пачатку года ў студзені-лютым ВУП Беларусі знізіўся на 1,6 % пры значным росце складскіх запасаў, паступленні валюты зменшыліся на 8 %. Аб'ёмы вытворчасці толькі ў беларускай сталіцы абваліліся на 8,8 %. А. Лукашэнка загадаў узмацніць кантроль на рынку страхавых паслуг. Прэзідэнт дэ-факта прызнаў Крым часткай Расіі, але федэралізацыю Украіны, як прагне Крэмль, ён абвергнуў. МЗС Украіны адразу ж адклікаў свайго пасла з Беларусі "для кансультацый". Бюджэтнікам двойчы вясной крыху павялічаць заробкі, яны не паспяваюць за ростам цэн. Пасля мясцовых выбараў у РБ засталіся вакантнымі толькі 7 з 18809 дэпутацкіх месц.**

## Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Лідары 7 вядучых дзяржаў свету вырашылі правесці сваю сустрэчу ў Брусэлі ў чэрвені без Расіі, яны адмовіліся збірацца ў Сочы разам, як намячалася раней.

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама паабяцаў дапамагчы Еўропе зменшыць залежнасць ад "Газпрама", накіраваць на кантынент моцна ўзброеныя войскі хуткага рэагавання.

**Турцыя.** Турэцкія ваенна-паветраныя сілы збілі сірыйскі ваенны самалёт паблізу КПП на граніцы, калі той атакаваў пазіцыі паўстанцаў, пілоту ўдалося катапульціравацца на тэрыторыі Сірыі.

**Расія.** З-за разрыва адносін з Украінай, па ацэнках ваенных экспертаў, абаронная здольнасць РФ хутка саслабее, бо многія кампаненты ракетна-касмічных войск рабіў украінскі ВПК.

**Галандыя.** Старшыня Еўракамісіі Ж. Баррозу папярэдзіў Расію, што ЕС увядзе супраць РФ трэці блок эканамічных санкцый, калі рускія прадоўжаць агрэсію супраць Украіны.

**Бельгія.** ЕС зноў пацвердзіў, што Крым не з'яўляецца часткай Расіі, усім крымчанам шэнгенскія візы дыппрадстаўніцтвы Еўрасаюза будуць выдаваць толькі ва Украіне.

**Літва.** Еўрасаюз не баіцца Расіі, як заявіла прэзідэнт Даля Грыбаўскайтэ, і будзе ўсяляк дапамагаць Украіне палітычна і эканамічна, нягледзячы на супраціўленне рускіх.

**Расія.** У горадзе Ліпецку расійскі АМАП уварваўся на тэрыторыю ўкраінскай цукеркавай кампаніі Roshen, захапіў фабрыку і паралізаваў дзейнасць прадпрыемства.

**Польшча.** Палітычны прытулак у краіне папрасіла першая група з 32 крымскіх татар, яны дапамагалі ўкраінскім ваенным і іх сталі пераследваць рускія пасля анексіі Крыма.

**Егіпет.** Суд правінцыі Мінья пакараў смерцю 529 членаў руху "Браты-мусульмане" за нападзенне на паліцэйскі ўчастак і забойства там групы афіцэраў паліцыі.

**Гвінея.** Дзіцячы фонд ААН ЮНІСЕФ пацвердзіў, што страшны смяротны вірус – ліхаманка Эбола дабраўся да сталіцы Канакры, дзе памерла першых 60 чалавек.

**Францыя.** Першы тур мясцовых выбараў прынёс прамежкавую перамогу правым з Нацфронта Марын ле Пен у шэрагу гарадоў, у Парыжы новым мэрам стане жанчына.

**Украіна.** Народная артыстка СССР Сафія Ратару адмовілася ад расійскага грамадзянства, яна не будзе прадаваць і свой утульны дом у Ялце, дзе цяпер гаспадараць рускія.

**Расія.** У Дзяржаўнай думе распрацавалі законапраект аб абмежаванні пракату замежнага, найперш амерыканскага кіно ў РФ, летась толькі 10 з 59 расійскіх фільмаў сябе акупілі.

**Украіна.** Міністр спорту Дзмітрый Булатаў абверг чуткі аб адмове краіны ад правядзення чэмпіянату Еўропы па баскетболе 2015 года, турнір рыхтуецца па графіку, як і арэны.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Беларусь апынулася ў спісе 10 краін-ізгояў, калі падтрымала РФ пры галасаванні рэзалюцыі Генасамблеі ААН, астатні свет прызнаў незаконным крымскі "рэферэндум".

**Дзяржынск.** Падчас паездкі А. Лукашэнка заявіў, што аграрыям ніхто грошай не дасць, як у мінулыя гады, ім трэба пачынаць працаваць лепш, лічыць выдаткі і думаць, як выжыць.

**Мінск.** Халодная вайна Расіі з Захадам, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, нічога добрага Беларусі не прынясе, рускія пацягнуць нас разам на дно з-за моцнай прывязкі да Масквы.

**Астравец.** Разам з узвядзеннем Беларускай АЭС, як пацвердзіў гендырэктар "Белэнерга" Я. Воранаў, думаем аб экспарце электраэнергіі суседзям, але шмат палітычных праблем.

**Мінск.** А. Лукашэнка ў інтэрв'ю ўкраінскай тэлепраграме "Шустэр Live" асудзіў дзеянні В. Януковіча на пасадзе прэзідэнта, які не застаўся са сваім народам у цяжкі час.

**Магілёў.** Экс-мэр Гомеля Віктар Піліпец абверг у судзе ўсе новыя абвінавачванні па быццам махінацыях з кватэрамі, назваў іх надуманымі і ілжывымі, не прызнаў сваёй віны.

**Брэст.** Некалькі дзён запар напрыканцы сакавіка фіксаваліся тэмпературныя рэкорды, на метэастанцыі "Палеская" зарэгістравалі абсалютны максімум – 21,2 градусы цяпла.

**Мінск.** Стратныя амаль 400 гаспадарак краіны, як пацвердзіў міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Л. Заяц, далучаць да плацежаздольных прадпрыемстваў.

**Барысаў.** На мясцовым заводзе БАТЭ перайшлі на 4-дзённы працоўны тыдзень, за тры апошнія месяцы адсюль звольніліся амаль 200 чалавек з-за малых заробкаў.

**Мінск.** Непрададзеных пральных машын на складах "Атланта" скапілася на 5,1 месяцаў працы, трактараў МТЗ – на 2 месяцы, абвал на "Гомсельмашы" – амаль на 10 месяцаў.

**Баранавічы.** Мясцовая 61-я авіябаза стала фактычна расійскай, іх самалёты Су-27СМ3 маюць радыус дзеяння 1500 км без дазапраўкі, накрываюць большасць сталіц краін ЕС.

**Ваўкавыск.** Перад выхадам з турмы суд устанавіў прэвентыўны нагляд над мясцовым палітзняволеным, прадпрымальнікам М. Аўтуховічам, за 5 патронаў ён сеў на 5, 2 гады.

**Мінск.** Дзяржкаммаёмасць РБ выставіў на продаж будынкі аб'яднання вылічальнай тэхнікі ў цэнтры сталіцы плошчай 62 тысячы квадратных метраў коштам 980 мільярдаў рублёў.

**Ліда.** На фоне стагнацыі піўной галіны ў РБ мінулы год стаў самым лепшым у 138-гадовай гісторыі ААТ "Лідскае піва" з ростам прадаж на 10 %, дапамагла гэтаму серыя акцый.

**Салігорск.** Хакеісты "Шахцёра", як заявіў міністр спорту РБ А. Шамко, узбунтаваліся з-за быццам недахопу грошай, хоць іх зарплата за месяц як сярэднегадавая па краіне.

## БЧ плануе ўвесці паслугу па замове таксі з цягніка



■ Таццяна Іванюк - БЕЛТА

**Беларуская чыгунка плануе ўвесці паслугу па замове таксі непасрэдна з цягніка. Аб гэтым карэспандэнту БЕЛТА паведаміў першы намеснік начальніка пасажырскай службы БЧ Андрэй Кашко .**

«Ёсць агульнае ўяўленне, як гэта рэалізаваць, але нам спатрэбіцца яшчэ да 10 дзён для таго, каб тэхналагічна адпрацаваць ланцужок дзеянняў, у тым ліку вызначыцца, як будзе перадавацца інфармацыя. Зараз мы вырашаем тэхнічныя нюансы», - расказаў спецыяліст. Ён растлумачыў, што пасажыр (магчыма, у анкеце ) зможа выказаць жаданне скарыстацца таксі, а кандуктар затым перадасць гэтую інфармацыю ў дыспетчарскую службу ў Мінск. «У выніку пасажыра, які прыбыў у Мінск, ужо сустрэне кіроўца таксі каля вагона і будзе суправаджаць да аўтамабіля», - рэзюмаваў Андрэй Кашко.

Паводле яго слоў, у цяперашні час вызначаная кампанія, якая будзе займацца прадастаўленнем паслуг, пра якія ідзе гаворка, - гэта перавозчык таксі ў Мінску, які валодае вялікім паркам аўтамабіляў. Раней быў праведзены адпаведны конкурс, падчас якога прад'яўляліся асаблівыя патрабаванні да аўтамабіляў (у прыватнасці, іх узрост не можа перавышаць 8 гадоў з даты выпуску, яны павінны быць абсталяваны тэрміналамі па прыёме пластыкавых банкаўскіх картак). «Таксама было агаворана, што ў выпадку, калі да нас звернецца англамоўны турыст, кіроўца, які будзе яго везці, павінен валодаць замежнай мовай», - дадаў спецыяліст.

Паслуга па замове таксі з цягніка будзе бясплатнай. Пасажыру спатрэбіцца толькі аплаціць праезд у таксі па загадзя ўзгодненым для сталіцы тарыфе.

Як звярнуў увагу Андрэй Кашко, Беларуская чыгунка падрыхтавала да чэмпіянату свету па хакеі 2014 года шмат нававядзенняў. «Чэмпіянат падзвіг нас на засваенне многіх тэхналагічных рашэнняў, але імі ў далейшым будуць карыстацца ўсе нашы пасажыры», - запэўніў ён.

Разам з тым анкетаванне, праведзенае раней БЧ у цягніках у дачыненні да паслуг, якія былі б пажаданыя (у тым ліку выклік насільшчыка да вагона цягніка ці таксі), паказала, што беларускія пасажыры ўспрымалі такую ідэю без энтузіязму. «Магчыма, гэта звязана з здагадкамі грамадзян, што гэта будзе занадта дорага», - заўважыў спецыяліст.

Як паведамлялася, падчас правядзення сусветнага спартыўнага спаборніцтва ў Беларусі БЧ гатова прадаставіць пасажырам максімум выгод і камфорту. Сваю дзейнасць дарога рэалізуе комплексна, у тым ліку выконвае рэканструкцыю і мадэрнізацыю асобных аб'ектаў транспартнай інфраструктуры, арганізацыйныя мерапрыемствы, якія прадугледжваюць як удасканаленне інфармацыйнага забеспячэння, так і падрыхтоўку абслугоўваючага персаналу напярэдадні чэмпіянату.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Докшыцы.** Яшчэ ніколі так рана гаспадаркі раёна не пачыналі веснавую сяўбу адразу пасля выбараў, ім трэба засеяць 16,5 тысяч га зерневых культур, шмат кукурузы, льну.

**Орша.** Па падазрэнні ў забойстве мясцовага маладога таксіста затрымалі 29-гадовага расіяніна, які пайшоў на злачынства на глебе рэўнасці, яго дзяўчына выбрала беларуса.

**Віцебск.** Услед за Шаркаўшчынай з 15 мая развітаюцца з аналагавым тэлебачаннем жыхары шэрагу раёнаў паблізу Віцебска, сёлета ў РБ адключаць 64 такія перадатчыкі.

**Гарадок.** Пры падрыхтоўцы абласных "Дажынак" вырашылі ўсе больш 90 пустуючых вясковых дамоў і кватэр бясплатна перадаць маламаёмным і шматдзетным сем'ям.

**Мёры.** Пасля рамонту нарэшце адкрылася закрытае на 5 гадоў педыятрычнае аддзяленне райбальніцы, новая ЦРБ узводзіцца ўжо чвэрць стагоддзя, яе здача будзе ў 2015 годзе.

**Руба.** На стыку водаскіду кар'ера ААТ "Даламіт" з Заходняй Дзвіной пабудавалі новую міні-ГЭС магутнасцю 750 кВт коштам 1,2 млн. $ з турбінай кітайскай вытворчасці.

**Полацк.** Двaіх жыхароў горада абрабавалі ў Санкт-Пецярбургу злачынцы пад відам паліцэйскіх, забралі іх грошы 8 тысяч $ і 7 тыс. рублёў РФ, ключы ад "Мерседэса".

**Віцебск**. Галоўны прыз нацыянальнай тэатральнай прэміі "Крыштальная Паўлінка" атрымаў за таленавітыя ролі артыст драмтэатра імя Я. Коласа Тадэвуш Кокштыс.

**Орша.** Апазіцыйная партыя левых "Справядлівы свет" на мясцовых выбарах змагла правесці адразу трох сваіх кандыдатаў у дэпутаты сельскіх Саветаў па раёне.

**Шуміліна.** Сябар руху "За свабоду" Аляксандр Шчамлёў перамог на сумленных выбарах і стаў дэпутатам Дабейскага сельсавета, яго сапернікам была нам. дырэктара школы.

**Віцебск.** У новым культурна-забаўляльным цэнтры "Мега" адкрыўся чарговы супермаркет электронікі "5 элемент" з больш чым 10 тысячамі найменняў бытавой тэхнікі.

**Глыбокае.** Кіраўнік літаб'яднання "Даляглядзы" Алесь Жыгуноў атрымаў у абласным цэнтры абласную літаратурную прэмію за кнігу для дзяцей "Баравічок на скутары".

**Паставы.** У мясцовым кінатэатры "Радзіма" на першым паверсе адкрылася новая кіназала 7D са спецэфектамі прысутнасці: снегу, ветру, дажджу, туману, рознымі пахамі.

**Віцебск.** Пасля капітальнага рамонту ў музычным каледжы імя І. Салерцінскага адкрылі канцэртную залу з тэатральнымі крэсламі і сучасным музычным абсталяваннем.

**Наваполацк.** З-за негатоўнасці свайго стадыёна ФК "Нафтан" зноў вымушаны быў старт чэмпіянату Беларусі па футболе пачынаць на полі цэнтральнага спорткомплекса Віцебска.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Праблему ветэрана-афганца вырашалі тры гады

■ **Зміцер Лупач,**
*тэкст і фота.*

Жыхар Глыбокага Андрэй Латушка нарэшце атрымаў пуцёўку ў Віцебскі рэабілітацыйны цэнтр для воінаў-інтэрнацыяналістаў. З 4 красавіка ён ужо знаходзіцца ў гэтым цэнтры. Андрэй чакаў гэту пуцёўку тры гады, і яшчэ амаль тры месяцы пайшло на тое, каб пераадолець розныя бюракратычныя перашкоды.

Гэты цэнтр знаходзіцца ў Віцебску і лічыцца агульнабеларускім. Пуцёўку Андрэй чакаў больш за тры гады. І вось 17 студзеня ён прыйшоў у паліклініку. Афганец пераказаў нам сваю размову з медсястрой:

*"Добра, што зайшоў, вось з 28 студзеня ёсць пуцёўка, я ўжо хацела званіць табе, паедзеш? Я гавару: "Вядома, трэба ехаць". Так, кажа, ты ж тры гады на чарзе стаяў, цяпер толькі далі. Добра, кажу, што там трэба далей? Прыязджай у панядзелак, дваццаць сёмага, забярэш накіраванне, выпіску з УКК (урачэбна-кваліфікацыйная камісія – З.Л.), і дваццаць восьмага трэба ўжо быць у Віцебску".*


Андрэй Латушка

Андрэй забраў у бухгалтэрыі паліклінікі пуцёўку, паведаміў на працу і пачаў рыхтавацца да паездкі. Заставалася толькі атрымаць накіраванне ў старшыні УКК. Але вось тут і пачаліся праблемы. Старшыні УКК Тамары Далманавай не было на месцы, і прыйшлося звярнуцца да лечачага ўрача Антона Жучка. Той паведаміў, што ёсць адзін нюанс, кажа Андрэй Латушка і працягвае:

*"Вам туды ехаць нельга, з вашымі захворваннямі вам супрацьпаказана. Я прыйшоў у бухгалтэрыю, сказаў ім, яны — як так, што такое, цэнтр рэабілітацыі, і афганцу нельга? Там жа прыязджаюць з усімі захворваннямі… Я гавару, а што ўжо толькі здароваму трэба ехаць туды, у гэты цэнтр рэабілітацыі?"*

У бухгалтэрыі паліклінікі афганцу паабяцалі вырашыць пытанне і датэлефанаваліся да старшыні УКК. Але і тая адказала, што не падпіша накіраванне. Спадар Андрэй быў вельмі здзіўлены, бо раней яна такое накіраванне яму падпісвала.

Андрэй Латушка звярнуўся па дапамогу ў глыбоцкі райваенкамат, але і там яму нічым канкрэтным не дапамаглі. Як кажа Андрэй, у ваенкамаце пра афганцаў узгадваюць у асноўным толькі раз на год, перад 15 лютага, калі адзначаецца Дзень памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў.

У такой сітуацыі афганец вырашыў звярнуцца да прадстаўнікоў СМІ. Тады ж, у пачатку лютага, журналісты пацікавіліся ў лекара Антона Жучка, чаму былому салдату не даюць доўгачаканую пуцёўку:

*"Мы яму не адмовілі, мы з яго жонкай гэта абмяркоўвалі, то бок цяпер вяртаецца старшыня УКК і гэта пытанне будзе вырашацца, таму што выразна ў пуцёўцы, якая прыйшла, ёсць супрацьпаказанне — эпілепсія. То бок, я прытрымліваўся дакументацыі, што паступіла мне на рукі. Мы гэта пытанне з ім абмяркоўвалі, і да прыезду старшыні УКК на наступным тыдні мы вырашым гэта пытанне ў індывідуальным парадку"*.

Пасля гэтага мы звярнуліся да ваеннага камісара глыбоцкага ваенкамата падпалкоўніка Сяргея Краснадубскага с просьбай пракаментаваць сітуацыю.

*"Мы падрыхтуем хадайніцтва, і з галоўным урачом я перагавару, каб такая магчымасць знайшлася, каб яго адправілі, таму што я ў курсе праблемы, ведаю гэту справу. Там хіба якія медыцынскія параметры ёсць, хаця калі гэты цэнтр для афганцаў, то павінна быць без выключэнняў"*, – сказаў тады ваенком.

Трэба адзначыць, што камісар сваё слова стрымаў. З ваенкамата быў скіраваны ліст у паліклініку з просьбай разабрацца ў справе ветэрана і даць пісьмовае тлумачэнне, чаму той не можа прайсці лячэнне ў спецыялізаванай медустанове.

Афганец Андрэй Латушка кажа:

*"У ваенкамаце мне сказалі, што далі пісьмовы запыт у глыбоцкую паліклініку па гэтым пытанні. Ваенкамат даў пісьмовы запыт у паліклініку, каб яны выдзелілі пуцёўку, і ім далі пісьмовы адказ".*

Старшыня медычна-кваліфікацыйнай камісіі Тамара Даламанава адрэагавала на сітуацыю пасля званка з Віцебскага рэабілітацыйнага цэнтра і згадзілася выдаць спадару Латушку пуцёўку ў цэнтр, як толькі з'явіцца такая магчымасць.

Мы размаўлялі пра гэта са спадаром Андрэем каля восьмай гадзіны раніцы, а ўжо пад абед яму патэлефанавалі з Глыбоцкай паліклінікі і паведамілі, што ёсць пуцёўка ў рэабілітацыйны цэнтр з 4 красавіка. Зараз ветэран знаходзіцца ў гэтым Цэнтры.

Гэта стала магчымым дзякуючы таму, што ў вырашэнні праблемы прыняў непасрэдны ўдзел кіраўнік глыбоцкага ваенкамата падпалкоўнік Сяргей Краснадубскі, які ўспрыняў гэту праблему як просты чалавек, а не як чыноўнік. Мы як прадстаўнікі СМІ са свайго боку таксама задаволеныя, што хоць у малой ступені змаглі дапамагчы канкрэтнаму чалавеку.

## Гадавы прагноз па інфляцыі ў Беларусі можа быць перагледжаны з 11 да 16-17%

**Гадавы прагноз па інфляцыі ў Беларусі можа быць перагледжаны ў горшы бок.**

"Раней на 2014 год інфляцыя прагназавалася на ўзроўні 11%, але цяпер разлічваем, што яна будзе больш — дзесьці 16-17%", — паведаміла старшыня праўлення Нацыянальнага банка Надзея Ермакова ў інтэрв`ю дзяржаўнаму агенцтву БелТА.

Нагадаем, па выніках студзеня—лютага ў Беларусі інфляцыя склала 3,6% пры гадавым прагнозе 11%.

Як паведамляў БелаПАН, згодна з прагнозам Сусветнага банка, інфляцыя сёлета ў Беларусі перавысіць 16%, "асабліва калі адбудзецца запланаванае павышэнне тарыфаў на камунальныя паслугі і прадоўжыцца карэкціроўка абменнага курсу".

У 2013 годзе інфляцыя ў Беларусі склала 16,5%.

***Аляксей Арэшка, БелаПАН.***


*Фота Ул. Скрабатуна.*

## Мелодыі вясны

**4 красавіка ў Глыбоцкім гарадскім доме культуры адбыўся канцэрт навучэнцаў Глыбоцкай школы мастацтваў пад назовам "Мелодыі вясны".**

Не гледзячы на платны ўваход – 20 тыс. руб.– сабралася поўная зала гледачоў: бацькоў, бабуляў ды дзядуляў, іншых блізкіх, а таксама прыхільнікаў мастацтва.

**На здымку:** інструментальны гурт выконвае мелодыю "Popcorn" ("Паветраная кукуруза").

## Паважаныя абаненты радыёфікацыі горада Глыбокае!

У адпаведнасці з Пастановай РУП "Белтэлекам" аб паэтапным адключэнні праваднога вяшчання ў г. Глыбокае радыёкропкі будуць адключаныя **02.05.2014 года**. Адключэнне ўзгоднена са старшынёй Віцебскага аблвыканкама Косінцам А.Н. Ахвотныя могуць набыць УКВ радыёпрыёмнікі ў вузле сувязі па адрасе: г. Глыбокае, вул. Палявая, 21, абанентны аддзел. Даведкі па тэл.: 5-03-41; 108.

***Глыбоцкі РВЭС.***

## МНС інфармуе
**на 08.04.2014 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 360;
Гібель людзей – 49, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 17;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон – 299.87 млн. руб.

## Медыкі заклікаюць беларусаў у выпадку ўкусу кляшча звяртацца да ўрача і праводзіць прафілактычнае лячэнне

**Летась у Беларусі была выяўлена больш як тысяча чалавек, заражаных інфекцыямі, што распаўсюджваюцца кляшчамі, паведаміў урач-паразітолаг Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Андрэй Ведзянькоў 3 красавіка на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Перш за ўсё - гэта клешчавы энцэфаліт і хвароба Лайма, паведаміў Ведзянькоў. Ён заклікаў беларусаў у выпадку ўкусу звяртацца да ўрача і праводзіць прафілактычнае лячэнне, якое рэкамендуе пачынаць не пазней за 72 гадзіны з моманту ўкусу. Толькі гэта "забяспечвае надзейную абарону ад клешчавых інфекцый", сказаў ён. Між тым прыняць рашэнне аб выбары таго ці іншага прэпарату для лячэння можа толькі ўрач на падставе стану здароўя канкрэтнага пацыента.

У Беларусі кляшчы ўжо актывізаваліся, паведаміў намеснік галоўнага ўрача па медыцынскай частцы Гарадской клінічнай інфекцыйнай бальніцы Святаслаў Вельгін. У выпадку ўкусу ён рэкамендаваў уважліва сачыць за сваім станам. Спецыфічнай прыкметай хваробы Лайма з`яўляецца з`яўленне на месцы ўкусу чырвонай плямы з прасвятленнем у цэнтры. Праз нейкі час пры адсутнасці лячэння можа з`явіцца артрыт, парэз нерва твару (асіметрычнасць твару). Прыкметамі захворвання з`яўляюцца высокая тэмпература, плямы на целе, боль у суставах, слабасць. Калі не лячыцца, праз паўгода артрыт пераходзіць у хранічную стадыю.



"Пацыенты з запушчанымі формамі захворвання шпіталізуюцца круглагадова. У такім выпадку прызначаецца курс лячэння антыбіётыкам на працягу 28 дзён унутрывенна. Выздараўліваюць не ўсе", — сказаў Вельгін.

У якасці прафілактыкі ўкусаў урачы рэкамендуюць максімальна засцерагчы цела адзеннем і прымяняць рэпеленты, будучы на прыродзе. Кожныя гадзіну-дзве варта аглядаць адкрытыя ўчасткі цела. У выпадку выяўленне кляшча, паводле слоў спецыяліста, можна выдаліць яго самастойна, а месца ўкусу апрацаваць растворам з утрыманнем спірту. Калі выдаліць насякомае не ўдаецца, трэба звярнуцца ў траўмапункт ці паліклініку па месцы жыхарства.

***Алена Спасюк, БелаПАН.***



■ Бр. Аляксандр Івашчонак С.R, бакалаўр гісторыі, Італія.

*Год таму адышоў да Бога сьвятой памяці айцец Бенігнус Юзаф Ванат.*

# Гісторык, які апрацаваў першую манаграфію Глыбоцкага кляштара Кармэлітаў Босых

## Юзаф Ванат: Глыбоцкі кляштар “меў найпрыгажэйшую гісторыю з усіх кармэліцкіх кляштараў Рэчы Паспалітай”.

У першую гадавіну сьмерці зь вялікім жалем і смуткам хачу Вас паведаміць, дарагія Чытачы “Вольнага Глыбокага”, што адышоў у вечнасьць сьвятой памяці айцец Бенігнус Ванат, кармэліта босы. Дня 9 красавіка 2013 уночы ў кракаўскім шпіталю на 80-м годзе жыцьця памёр а. Б. Ванат.

Яго сьвецкае імя Юзаф Ванат, нарадзіўся ён 17 сакавіка 1934 г. у Фрыдрыхавіцах каля Вадовіц (блізка Кракава) у звычайнай шматдзетнай сялянскай сям'і – меў 7 братоў і адну сястру. Пасьля заканчэньня школы ў 1951 г. уступіў у Ордэн Кармэлітаў Босых. У кляштары ў Чэрнай адбыў навіцыят, дзе прыняў імя Бенігнус ад Хрыстуса Валадара. Быў рукапакладзены ў сьвятары 16 траўня 1959 г. у Кракаве кракаўскім біскупам Каралям Вайтылам (пазьнейшым папам Янам Паўлам II). Пасьля ўжо, будучы сьвятаром, у 1964-1969 вучыўся на факультэце гісторыі на Ягелонскім Унівэрсітэце. У 1982 г. атрымаў тытул доктара



Айцец Бенігнус Ванат

тэалогіі, а ў 1984 г. абараніў габілтацыю на Папскім Унівэрсітэце Яна Паўла II у Кракаве. У 2000 г. айцец Бенігнус Ванат атрымаў тытул прафэсара і быў кіраўніком катэдры гісторыі мастацтва на Папскім Унівэрсітэце Яна Паўла II у Кракаве. Выкладаў гісторыю таксама ў Вышэйшай Духоўнай Сэмінарыі Кармэлітаў Босых у Кракаве.

**Айцец Ванат асабліва радаваўся, калі я яму прывозіў глыбоцкую згушчонку.**

Айцец Ванат быў прыёрам у Чэрнай 1969-1972, 1987-1990, у Люблiне 1972-1975, у Кракаве 1999-2002. Быў таксама правінцыялам Кракаўсакай правінцыі Кармэлітаў Босых у 1984-1987, 1990-1993, 1993-1996.

Акрамя таго айцец Ванат у 1960 г. стварыў Архіў Польскай Правінцыі Кармэлітаў Босых у Чэрнай і быў яго кіраўніком аж да 2011 г. Менавіта ў гэтым архіве знаходзяцца гістарычныя крыніцы наконт Глыбоцкага Кляштара. Айцец Ванат напісаў шмат манаграфій розных кляштараў Кармэлітаў Босых, якія знаходзіліся на тэрыторыі Рэчы Паспалітай.

У асабістых размовах айцец Ванат заўсёды цікавіўся гісторыяй Глыбокага, а асабліва гісторыяй кляштара. У сваім жыцьці ён толькі аднойчы пабываў у Глыбокім. Мушу прызнаць, што Глыбокае было яму блізкае, таму ён заўсёды мяне пытаўся, ці мясцовыя інтэлігэнты напісалі штосьці новага, ці знайшлі штосьці, ці зрабілі рамонт у кляштары, аднак асабліва радаваўся, калі я яму прывазіў глыбоцкую згушчонку. Айцец Ванат вельмі клапаціўся пра выданьне камплетнай гісторыі кляштара, які, як ён казаў, “меў найпрыгажэйшую гісторыю з усіх кармэліцкіх кляштараў Рэчы Паспалітай”. Вельмі часта мне тэлефанаваў, пасьпяшаючы з выданьнем, але на жаль, з-за недахопу часу так і ня атрымалася гэтага зрабіць.

Сёлетняя гадавіна сьмерці гэтага выбітнага Чалавека няхай станецца для нас заахвочаньнем да руплівай працы над гісторыяй нашага роднага Глыбокага.



Пахаваньне на кракаўскіх могілках пры ўдзеле кардынала Ф. Махарскага.

# Выйшлі ўспаміны беларуса, які прышываў гузік Эйнштэйну

**У выдавецтве «Лімарыус» у серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка» колькі тыдняў таму пабачылі свет успаміны «Маё мястэчка» Васіля Стомы (1911—1992). “Маё мястэчка” – гэта кніга пра даўняе жыццё блізкага да Глыбокага мястэчка Лужкі.**

У выдавецтве «Лімарыус» у серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка» колькі тыдняў таму пабачылі свет успаміны «Маё мястэчка» Васіля Стомы (1911—1992).

Аўтар нарадзіўся ў Лужках былога Дзісенскага павету (сёння Шаркаўшчынскі р-н Віцебскай вобласці). Падчас Другой сусветнай працаваў у беларускай адміністрацыі, таму ўлетку 1944 г. разам з маці і сястрой выехаў на эміграцыю. Праз гады побыту ў Нямеччыне Стомы выехалі ў ЗША.

А далей — звычайны лёс эмігранта, якіх дзясяткі і нават сотні тысячаў аселі ў другой палове ХХ ст. на Захадзе.

Васіль Стома быў адным з заснавальнікаў аддзела Беларуска-Амерыканскага задзіночання ў штаце Нью-Джэрсі, быў сябрам Рады БНР, парафіянінам царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Нью-Брансвіку, выкладчыкам у беларускай суботняй школцы. Зарабляў на жыццё, працуючы ў шавецкай майстэрні.

У вольны ад працы час Васіль Стома пісаў пра абрады й звычаі Дзісеншчыны, складаў слоўнічак там-




тэйшага дыялекту, а таксама пісаў успаміны.

Асноўны змест апошніх складае аповед пра дзяцінства і юнацтва ў Лужках, а дакладней пра само мястэчка, вуліцы, будынкі, насельніцтва пад «польскім часам».

Каларытныя характары звычайных жыхароў, з гумарам пададзеныя падзеі штодзённага жыцця — усё гэта стварае выдатны вобраз заходнебеларускага мястэчка ў міжваенны час.

Прадстаўленыя Стомам Лужкі — мястэчка, дзе нарадзіўся стваральнік іўрыту Эліэзэр Бэн Егуда. Сярод згаданых ва ўспамінах ёсьць а. Язэп Гэрмановіч, вядомы доктар Усевалад Шыран, святар Іван Кушнер, жонка Станіслава Булак-Балаховіча.

Упершыню «Маё мястэчка» публікавалася на старонках эміграцыйнага часопіса «Беларускі сьвет», што выдаваўся ў Дэтройце ў 1980-х гг. Сёлетняе выданне больш поўнае, дадаўся таксама тэкст пра абрады й звычаі Дзісеншчыны.

Стрыечны брат Стомы Яўген Кананoвіч (ён жыў у СССР, але адведваў сваяка ў ЗША) згадваў, што «добры апавядальнік, знаўца вялікай колькасці анекдотаў,

Стома любіў расказваць, што аднойчы яму давялося прышываць гузік самому Альберту Эйнштэйну. Той зайшоў у майстэрню і спытаў, колькі гэта будзе каштаваць, на што майстар-беларус адказаў, што для такога чалавека ён зробіць усё бясплатна».

Ці праўдзівая гэтая гісторыя, сказаць складана. Яна магчымая, бо славуты навуковец жыў за 35 кіламетраў ад Стомавага Нью-Брансвіка ўніверсітэцкім мястэчку Прынстан. Але Яўген Кананoвіч быў пэўны: брат нічога не прыдумляў.

*nn.by*

# Насельніцтва Віцебскай вобласці па стане на 1.01.2014

**На 1 студзеня 2014 года ў Віцебскай вобласці жыло 1 202 130 чалавек, у тым ліку ў гарадах 912 005, у сельскай мясцовасці — 290 125. Віцебск меў 370 604 жыхароў, Наваполацк — 101 860, Полацк — 84 968, Орша — 116 597.**

У Мёрскім раёне налічвалася ўсяго насельніцтва 21 602 чалавекі, у тым ліку гарадскога 9 764 (у Мёрах — 8 131, у Дзісне — 1 633), сельскага — 11 838.

Насельніцтва суседніх раёнаў: Браслаўскі — 27 073 (у райцэнтры — 9 689), Верхнядзвінскі — 22 564 (7 253), **Глыбоцкі — 38 456 (18 709),** Полацкі — 108 792.

*Крыніца: http://www.mijory.by/*

# У Віцебску ва ўласнай кватэры падарваўся чорны капальнік

■ Сяржук Серабро

**6 красавіка, у другой палове дня. у адной з кватэр другога пад'езда дома №7 па вуліцы Чкалава ў Віцебску адбыўся выбух, у выніку якога пацярпелі два чалавекі.**

Аднаму з пацярпелых — 24-гадоваму ўладальніку кватэры — па неафіцыйных дадзеных адарвала кісць рукі і былі нанесены аскепкавыя раненні. Ён шпіталяваны ў рэанімацыю. Таксама пацярпела яго 23-гадовая сяброўка, якая на момант выбуху знаходзілася ў кватэры.

Пры правядзенні праверачных дзеянняў было ўсталявана, што ўладальнік кватэры захапляецца раскопкамі “трафеяў” часоў Другой сусветнай вайны. Пра гэта сведчылі выяўленыя ў кватэры металашукальнік, геаграфічныя карты і гільзы.

У дзень надзвычайнага здарэння мужчына прынёс дахаты невядомы прадмет, меркавана, гранату, якая ў выніку разборкі і зборкі падарвалася, паведамляе БелТА, са спасылкай на прадстаўніка ўпраўлення Следчага камітэта па Віцебскай вобласці Іну Гарбачову.

На месцы здарэння выязджаў следчы гарадскога аддзела і апарата абласнога ўпраўлення следчага камітэта, сапёрна-піратэхнічная група і супрацоўнікі МУС.. Па факце выбуху УСК па Віцебскай вобласці ўзбуджана крымінальная справа па частцы 2 артыкула 295 КК “незаконныя дзеянні ў адносінах агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў”.

